Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 19. Вільня, Субота, 21-га сакавіка 1925 г. Год I.

**Толькі дзесяць дзён асталося дзеля падачы дэклярацыяу аб беларускіх школах. Хто дагэтуль ня споўніў сваей нацыянальнай павіннасьці, пастарайцеся зрабіць гэта да 31 марца с. г.: гэта—апошні тэрміні**

**У гэтым нумары 6 страніц**

## Праз нашы галовы.

Ніжэй мы падаем вынікі „вялікага дня“ ў Лізе Народаў. Вынікі гэтыя толькі пацьвярджаюць тое, што мы на гэтым месцы ўжо адзначалі сьледам за польскай прэсай: іменна, што для Польшчы ўзьнімаецца вялікая небясьпека з боку Нямеччыны. Бо з Нямеччынай Польшча ніякім чынам не здалела дагаварыцца аб разьмежаваньні спрэчных зямель. Польшча папросту скарысталася перамогай сваіх саюзьнікаў над нямецкім народам і ўзяла ў апошняга ўсё, што ей было патрэбна. Але тое, што ўзяла Польшча, у роўнай меры патрэбна і Нямеччыне. І вось апошняя, карыстаючыся новым укладам міжнародавых адносінаў, хоча цяпер падняць (дый напэўна падніме) справу перагляду гэнага аднабокага разьмежаваньня — ужо не на падставе „прыказу“ Антанты, а на падставе прызнаньня раўнацэннасьці і раўнаважнасьці жыцьцёвых патрэб Нямеччыны і Польшчы.

Польская прэса, польскія законадаўчыя ўстановы, урад і ўсё грамадзянства вельмі добра разумеюць, што суліць падобны „перагляд“ справы польска-нямецкіх граніц. І вось, пад той час, як „вуліца“ выкрыківає ваяўнічыя лёзунгі проці Нямеччыны, палітычныя кругі Польшчы пачынаюць шукаць для сябе нейкае новае апоры — ужо не на Захадзе толькі, але і на Усходзе.

Яшчэ так нядаўна мы чыталі на страніцах *усяе* польскае прэсы (ад крайніх рэакцыянэраў да сацыялістаў), што Усход — „Саюз Сацыялістычных Радавых Рэспублік“ — гэта „Барбарыя“, гэта „азіяцкая дзіч“, з якой зусім немагчымы нармальныя адносіны. Польшча выабражала сябе „бар'ерам“, які быццам-то мае бараніць ад гэнае „дзічы“ „заходнюю цывілізацыю“.

Але гэта было — *ўчора.* Сягоньня чутны ўжо іншыя галасы на страніцах польскіх газэт. У іх ужо і паміну няма ад гістарычных заяваў п. Пілсудскага: „byle dalej od tej przeklętej Moskwy“. Вось, што піша ў нядзельнай перадавіцы лейб-орган эндэкаў „Gazeta Warszawska“:

„Імкненьнем польскага грамадзянства і ўраду зьяўляецца наладжаньне з Расеяй палітычных адносінаў на падставах міравога сужыцьця, якія запэўнілі-бы абедзьвюм старонкам бясьпечнасьць і аблягчылі-б як палітычнае, так і эканамічнае разьвіцьце. Імкненьне гэтае ляжыць на дарозе гістарычных інтарэсаў польскае палітыкі, якая з *кожнай* Расеяй, *незалежна ад істнуючых у ёй унутраных адносінаў*, хоча жыць у згодзе і паразуменьні“.

Калі паўзіраемся на польска-нямецкія адносіны, дык убачым, што аднэй з прычынаў немагчымасьці польска-нямецкае згоды *пры сучасных граніцах* зьяўляецца тое, што значная частка нямецкага насяленьня апынулася паміма сваей волі ў межах Польшчы, ды вельмі ўжо негасьціннай аказалася польская дзяржава для гэтых сваіх новых грамадзян.

Нешта падобнае істнуе і ў польска-расейскіх адносінах. Ня трэба забывацца, што Рыжскі мір аддаў Польшчы добрую часьціну тэрыторыі Беларусі, якая ў складзе рэшты сваіх зямель уваходзіць, як паўнапраўны сябра, у „Саюз Сацыялістычных Радавых Рэспублік“. І вось гэтыя беларусы, што апынуліся пад Польшчай, сустрэлі тутака ў *многа разоў горшыя адносіны*, чым тыя немцы. Дык зусім ясна, што польская палітыка ў адносінах да беларусаў можа аказацца паважнай перашкодай дзеля так пажаданых сяньня для Польшчы добра суседзкіх адносінаў з СССР.

Мала таго: тая-ж „Gaz. Warsz.“ зусім выразна заяўляла ў адным з апошніх нумароў сваіх, што чароднай задачай польскае палітыкі ў Лізе Народаў зьяўляецца *скасаваньне трактату аб правох нацыянальных меншасьцяў*, каб у прыпадку ўтраты гданскага „калідору“ і Горнага Сьлёнску пакіраваць усю энэргію польскага народу на „Усходнія Крэсы“ — дзеля апалячаньня беларускага і ўкраінскага насяленьля. Дык ясна, што тая перашкода дзеля добрых адносінаў з СССР, якую прадстаўляе нацыянальны ўціск беларусаў і ўкраінцаў у польскай дзяржаве, ня толькі ня можа счэзнуць, але, наадварот, можа йшчэ больш павялічыцца....

Некалі польскі „сацыяліст“ пан Недзялковскі заяўляў з соймавае трыбуны, што польскае грамадзянства патрапіць „паразумецца“ з беларускім насяленьнем у Заходняй Беларусі — „праз галовы народных дэпутатаў“. „Паразуменьне“ гэтае, аднак, абняло толькі... валэйшаўска-павлюкевічаўскі шулерскі прытон! Мімаволі ўспамінаецца гэты факт, калі чытаем польскія газэты, якія маняцца „паразумявацца“ з СССР, *а значыць і з Радавай Беларусяй*, праз галовы нашага люду ў Заходняй Беларусі! І мы спадзяемся, што такога „паразуменьня“ Польшча ніколі ня здолее дабіцца з сучаснай Расеяй, а хіба толькі — з „тэорэтычнай“ Расеяй „его императорскаго величества“ апэрэтачнага „цара“ Кірыла І.

## Ліга Народаў.

*„Вялікі“, але „пусты“, дзень у Жэневе.*

Дзень 12 сакавіка быў, як прынята казаць, „вялікім днём“ сэсіі Рады Лігі Народаў: прамаўлялі абодва галоўныя кіраўнікі і канкурэнты на першую роль у Лізе — англіец і француз...

Прамова Чэмбэрлена, як кажуць, уложаная Бальфурам і Керзонам, была вельмі рэзкай крытыкай выпрацаванага Мак-Дональдам і Эрыо ў верасьні на агульным зьездзе Лігі ў Жэневе „пратаколу аб бясьпечнасьці“.

Чэмбэрлен даводзіў, што разьемчыя чыннасьці Лігі, прадугледжаныя ў пратаколе, ня будуць мець запраўднай моцы; праектаваныя кары будуць невыканальныя, пакуль у Лізе няма цэлага раду дзяржаў, а перад усім аж чатырох вялікіх: Амэрыкі, Нямеччыны, Расеі і Кітаю. А наагул чыннасьць Лігі — у прыязным супрацоўніцтве народаў над утрыманьнем і ўзмацаваньнем між імі міру, *а не ў арганізаваньні будучае вайны*, прадбачучы назаўсёды ненармальныя, паталягічныя абставіны і адносіны між народамі... Дык пратакол, ня гледзячы на гэтае паталягічнае прадбачаньне вайны, зусім яе не папераджае, ня ўхіляе яе магчымасьці, бо перад усім не вядзе абавязкова да разбраеньня — ані сябраў Лігі, ані тых, што астаюцца па-за яе межамі.

Дзеля таго ўсе прадбачаныя меры і кары проці нападаючай стараны зусім не гарантуюць міра. Ліга можа сваім аўтарытэтам зрабіць вельмі многа, але пагрозамі караў ня зробіць нічога, бо-ж *ня здольна іх зьдзейсьніць.* Англія ніколі ня згодзіцца аддаць да ўжытку Лігі свой флёт, іграючы роль „марскога жандарма“.

З свайго боку Англія прапануе, адкінуўшы пратакол, забясьпечыць мір, апрача агульнага разбраеньня, *паасобнымі абароннымі трактатамі* між дзяржавамі, зробленымі ў паразуменьні з Лігай — у духу саюзу Народаў.

У канцы прамовы англійскі дэлегат рашуча заявіў, што ані Англія, ані яе доміні не падпішуць пратаколу.

Пасьля перарыву з гарачай абаронай пратаколу і едкай крытыкай крытыкі Чэмбэрлена выступіў бясспрэчна найлепшы аратар сучаснай Францыі, яе дэлегат, Брыан.

Брыан рэзка і дасьціпна крытыкаваў нясталасьць палітыкі Англіі, якая сьпярша адкідала *паасобныя* саюзы, высоўваючы *агуль*

*ны* і *супольны* „дагавор бясьпечнасьці“ а, калі гэты дагавор у відзе пратаколу быў апрацаваны разам з галавой англійскага ўраду — Мак-Дональдам, дык прыходзіць другі англійскі ўрад і—наадварот—адкідае агульны абаронны дагавор дзеля паасобных абаронных саюзаў...

Францыя стаіць моцна на грунце пратаколу, але ахвотна прызнае ўсялякія паляпшэньні ў ім, ці ўсялякія іншыя меры, гарантуючыя ёй і Эўропе бясьпечнасьць. Брыан вельмі спрытна адзначае, што пратакол ліча ўсіх сябраў Лігі—і вялікіх і малых—роўнымі ў міжнародавых адносінах і дамагаецца забясьпечаньня міру і нятыкальнасьці граніц для ўсіх роўна; гэта — найбольш шляхотная рыса пратаколу. Пратакол рупіцца аб тым, каб не ствараць ні для каго прывілею бяскарнасьці, а з другога боку—не рабіць нікога ахвярай ня ставіць па-за абаронай ніводнага *народу* (напрыклад, беларусаў, п. Брыан?!) перад эгаізмам дужэйшых і небясьпекаю вайны...

Пасьля сваей прамовы Брыан прачытаў дэклярацыю францускага ўраду, у якой бароначы пратакол і стоючы крэпка на яго грунце, урад падчырківае гэткія важныя адзнакі пратаколу:

1. Пратакол першы раз у гісторыі выразна *называе* (!) вайну міжнародным праступленьнем.

2. Ен дае найлепшы сынтэз прынцыпаў разбраеньня і забясьпечаньня міру.

3. Абавязковы арбітраж (палюбоўны суд) забясьпечывае ахову міру.

4. Кары, ці меры папяраджаючыя, праектаваныя пратаколам, — толькі разьвіваюць прынцыпы ўмовы Лігі Народаў—яе статут.

францыя не адкідае паасобных саюзаў, але сцьвярджае, што разбраеньне магчыма толькі на грунце пратаколу.

Як бачым, *Англія ізноў рашуча разыйшлася з Францыяй*. Англія адкідае абавязковы арбітраж, бо *ня хоча падпарадкаваць сябе і свае эгаістычныя споры*. з сваімі канкурэнтамі і ахвярамі (з Турцыяй, Ягіптам і т. д.) суду іншых, а перад усім малых дзяржаў...

Апроч таго, Англія *ня хоча ўсей тэй рызыкі, якая зьвязана з прызнаньнем нязьменнасьці і гарантаваньнем сучаснага тэрытарыяльнага ладу ў Эўропе, а перад усім—польска-нямецкай граніцы...* Англія ня хоча абязывацца ваяваць разам з Францыяй *проці Немцаў у прыпадку магчымай польска-нямецкай вайны...* А гэта як-раз і зьяўляецца *галоўнай*, укрытай за рознымі пекнымі славамі, мэтай пратаколу.

Чэмбэрлен сказаў ясна: *сьпярша стварыце нармальныя адносіны* ў Эўропе, а тады Лізе ня будзе патрэбы займацца зусім ненармальнай працай, якая ня толькі ня спыняе, але і *арганізуе будучую* (дык відаць-жа і няўхільную) *вайну...* Дык трэба сьпярша і пачаць з *перагляду ненармальных—тэрытарыяльных—адносінаў* Вэрсальскай Эўропы, а не з замацаваньня гэтага ненармальнага ладу на векі вякоў...

Найбольш цікава: як жа падзеяла на сябраў Рады „красамоўства“ абодвух праціўнікаў,—як высказаліся прадстаўленыя ў Радзе Лігі дзяржавы і—якой рэзалюцыі можна спадзявацца ад Рады?

Дэлегат *Італіі*—Шалойя рашуча *далучыўся да англійскага пункту гледжаньня*.

Прадстаўнік *Японіі* — Ішы заявіў, што яго ўрад *яшчэ... не разглядзеў* добра пратаколу.

Дэлегат *Бэльгіі*, — здавалася-б, гэткай прыяцельскі Францыі! — заявіў, што на яго пагляд, пратакол, хаця і вялікі крок напярод, аднак-ж *не забясьпечывае, як належыць, міру...* Трэба яшчэ, як радзіць Чэмбэрлен. рабіць паасобныя саюзы—пад кантролем Лігі...

Прадстаўнік *Швэцыі* (фактычна — усей Скандынавіі) яшчэ... *не гатоў*, каб добра ацаніць пратакол... Калі падгатуецца, тады запрапануе папраўкі...

*За пратакол* высказаліся (відаць, пад уплывам красамоўства Брыана!) толькі *Гішпанія, Бразылія і Уругвай...*

Дэлегат Ч*эхаславакіі* Бэнэш, як дакладчык, *папрасіў... часу*, каб улажыць рэзалюцыю Рады, схаваўшы пакуль-што свой пагляд на пратакол.

Але-ж рэзалюцыю гэту, як-бы яна спрытна і лоўка ні была зрэдагавана талентным п. Бэнэшам, па яе зьместу вельмі лёгка прадбачыць: *пратакол ня будзе прынятый Радай... Пратакол*, ня гледзячы на шляхотныя аргумэнты п. Брыана—аб „міжнародавай роўнасьці народаў“ (*напрыклад*, беларускага народу з польскім і -- нямецкага з францускім....)—*праваліўся* і ўжо не паўстане...

Не паўстане — дзеля таго, што яго добра разглядзець і ацаніць ня мелі часу, а мо' і ахвоты, ня толькі Англія, Японія,— Італія, Скандынавія, ды нават Бэльгія, — але *зусім не разглядалі*—Амэрыка, Нямеччына, Расея, Кітай і шмат іншых меншых дзяржаў... ня кажучы ўжо аб *народах...* Спробу прыкрыць пекным і „шляхотным“ славесным міражам—агідна—недарэчную рэальнасьць Вэрсальскай Эўропы, увекавечыўшы, наперакор нацыянальным і маральным стыхіям, абураючы, руйнуючы матар'яльна і мучачы маральна ня толькі пабітых і парэзаных пераможаных, але і самых пераможцаў, лад,—трэба прызнаць лопнуўшай...

А калі так, калі на мейсца нябожчыка—пратаколу павінны, як прапануе Англія, авы, сунуцца паасобныя саюзы і групавыя ўмовы. дык як-раз і прыдзецца дзяржавам, а перад усім Радзе Лігі заняцца канкрэтнай прапазіцыяй гэткага гарантуючага мір—на пэўных варунках — дагавору, паданай нямецкім урадам і датыкаючай забясьпечаньня заходняй граніцы Нямеччны. І можна напэзўна сказаць, што гэтай нямецкай прапазіцыяй цяпер паважна займуцца вялікія дзяржавы—саюзьніцы. Займецца і Францыя, якая можа дзеля гэтага запрасіць на чало ўраду самага „здрайцу“ і „нямецкага прыяцеля, калі ня „шпіка“, *Кайо...*

**В.**

### Рэзалюцыі Рады Лігі.

На паседжаньні 13/III прадстаўнік Чэхаславакіі п. Бэвэш, пасьля прамовы ў абарону пратаколу, прачытаў праект рэзалюцыі, якая была прынята аднагалосна.

Пастаноўлена перадаць усю справу пратаколу разам з усімі дэклярацыямі сябраў Рады і іншымі матар'яламі—VI-му Агульнаму Сабраньню Лігі і, пакуль яно не зьбярэцца і ня выскажацца на сутнасьць справы, — палажыць гэту справу... ў лядоўню!

Адным словам, хаўтуры пратаколу „па першаму разраду“.

Рэзалюцыі ў справах гданскіх, як пішуць польскія газэты, усе схіліліся на карыцьць Польшчы.

На галоўнае пытаньне, ці Гданск — сувэрэнная (незалежная) дзяржава, Рада Лігі не дала выразнага адказу, схаваўшыся за адгаворку, быццам самае паняцьце „дзяржаўнасьці“ ня мае яснага азначэньня ў навуцы... Рада абмежавалася заявай, што ў Вэрсальскім Трактаце ясна сказана, што Гданск—„Вольнае Места“,—як-быццам гэтае „вольнае места“—больш выразна азначана ў навуцы дзяржаўнага права...

Другая, ужо частковая, але найбольш палючая справа польскіх паштовых скрынак--адаслана на юрыдычнае вырашэньне да Міжнародавага Трыбуналу ў Гаазе.

Але, пакуль адбудзецца гэты суд, польскія скрынкі пакінуты Радай на мейсцы...

Адказ Рады Лігі на ноту Нямеччыны ў справе ўваходу ў склад Лігі зрэдагаваны вельмі зычліва, але Рада не зрабіла Нямеччыне ніякіх спэцыяльных уступак, якіх тая дамагалася. Паводле прыватных вестак, Рада згадзілася даць Нямеччыне сталае мейсца ў Радзе, як вялікай дзяржаве.

На закрытым паседжаньні апошняга дня разглядалі справу перадачы ваеннага кантролю над

---

Ад. Станкевіч.

## Доктар Францішак Скарына—першы друкар беларускі.

### (1525—1925)

### VIII. Мова Скарыны.

Сам Скарына ў сваіх прадслоўях цьвердзіць, што ён піша кніжкі **„руским языком“**. Дык трэба нам над гэтым крыху затрымацца.

Землі, занятыя ўсходнімі славянамі, гэта знача: Беларусамі, Украінцамі і Маскоўцамі, за часоў Скарыны, а такжа прад ім і крыху пасьля яго, зваліся агульным іменем „рускімі“, а мова ўсіх іх „рускай“. Назоў гэты быў прадусім палітычны. Усе тры гэтыя народы, паўстаўшыя з блізкіх і сваяцкіх да сябе плямён усходня-славянскіх, мелі многа чаго між сабой падобнага. І вось-жа сталася так, што сярод гэтых народаў, напачатку іх гістарычнага жыцьця, палітычную ўладу ўзялі ў рукі далёкія нарманы з племені „Рус“. Яны заваёвывалі славян і кіравалі імі. З іх паўсталі князі „рускія“. Іх патомкі, натуральна, зьмяшаліся з славянамі і паволі нічога ўжо супольнага ў сабе з нарманскім племенем „Рус“ ня мелі. Аднак, назоў „рускі“ затрымаўся за імі і пашырыўся разам з уладай на ўсе ўсходня-славянскія землі.

Дзеля гэтага і пісьменства з гэнага часу, як сярод Маскоўцаў, так Беларусаў і Украінцаў, звалася гэтым агульным іменем „рускіе“. Але гэта ня знача, што яно было нейкім зусім аднольквым. Не, Ужо ў Скарынаўскі час Беларусы, Украінцы і Маскоўцы станавілі цалком асобныя народнасьці, кожная з іх, праўда, мела (як і цяпер мае) многа чаго супольнага, але ня менш і рознага. І вось жа, хаця яшчэ пісьменства кожнай з іх звалася агульна „рускім“, то яно ўжо запраўды было, ня гледзячы на супольны ў іх элемэнт усходня-славянскі, так-жа і беларускім, украінскім і маскоўскім, залежна ад таго, у якой з гэтых моваў што пісалася: пабеларуску, украінску ці маскоўску. А пішучы, хоць і прытрымліваліся стара-славянскай мовы, як асновы, то, залежна ад таго, якой народнасьці быў гэты пісьменьнік, ці проста перапішчык, да мовы такой-жа народнасьці і зблізкаўся іх твор, бо ён або часта рабіў памылкі на карысьць сваей народнасьці, або сьведама ўводзіў жывыя народныя словы замест ужо незразумелых стара славянскіх.

Скарына выразна сваю мову заве **„руски язык“** і выразна яе адрозьнівае ад **„языка словенскаго“**. Будучы-ж сам беларусам з Полоцка і празначаючы свае кнігі для дабра іменна свайго народу, народу Беларускага, пісаў іх, ці лепш пераводзіў на мову іменна беларускую. Найлепшымі сьведкамі гэтага—яго-ж уласныя кнігі.

Для пацьверджаньня гэтага падаем тут прыклады Скарынаўскай мовы з яго кніжак. Аднача сна зазначаем, што шмат каму яна можа здацца і не беларускай проста для таго, што ў многім не падобная да сяньняшняй беларускай мовы і ў многім розная ад яе. У адказ на гэта мусім прыпомніць вось, што.

Сёлета сьвяткуем 400 гадоў Скарынаўскага друку. А за 400 гадоў, каб не зьмянілася ані троха мова Беларускага народу — зусім немагчыма. Кожная жывая мова разьвіваецца і зьмяняецца, хоць у аснове сваей астаецца тэй самай-жа. Гэтак ёсьць з мовай польскай, маскоўскай і з кожнай іншай. Дык і беларуская мова, што за часоў Скарыны была яшчэ ня так далёка ад мовы стара-славянскай, на якой вучыўся граматы і сам Скарына, за 400 гадоў адбегла ад яе нябывала далёка.

Далей, апрача ўплываў найсільнейшых на мову Скарыны мовы стара-славянскай, (аснову) мелі на яе так-жа ўплыў: мова чэшская, (словы і звароты), бо з чэшскіх друкаваных кніг карыстаўся Скарына ў Празе, мова польская і літоўская (словы), бо ў жыцьці палітычным і культурным была тады стычнасьць, як з Палякамі, так і Літоўцамі.

Аднак усе гэтыя чужыя ўплывы і залежнасьці мовы Скарыны ў аснове не зьмяняюць і яна не перастае быць, згодна са сваім часам, беларускай.

Для прыкладу зьмяшчаем тут адрыўкі мовы Скарыны: [1]) **„Понеже отприроженния звери ходящие въпустыни знають ямы своя. Птици летающия повозъдуху ведають гнезда своя. Рибы плывающие поморю иврекахъ чують виры своя. Пчелы итымъ подобная боронять ульевъ своихъ. Такожъ илюди игде зродилися и ускормлены суть побозе ктому месту великую ласку имають“. (Кн. Юдие).**

**„О сихъ книгахъ всея Библии подле малости розуму моего розделы вократце положихъ. А вчембыхся омылихъ Разумнеишие поправте прошу васъ, для Бога и для посполитого доброго“. (Прадсл. ў Бібліі).**

**„Что знаменовала естъ неволя телесная сыновъ Ізраилевыхъ воегипте, ненашули неволю душную... Египетъ порусныи сказуется темности, Астыхъ насъ выведе сынъ божии. Купина неопалимая ясне знаменовала Зачатие безсемени Сына Божия“. (Ісход).**

Ужо з гэтых прыкладаў бачым, як многа беларускасьці ў мове Скарыны.

Для поўнасьці, паводле Владимірова, дадаем словы мовы Скарыны, што асталіся ў народзе аж да сяньня, паясьняючы толькі некаторыя, менш зразумелыя.

| Беларускія словы, ужываныя Скарыной: | Сяньняшняе іх значэньне: |
|---|---|
| борздыи, борздо | хуткі (а), скоры (а) |
| боровіть | бараніць |
| братаўна | братава дачка, пляменьніца |
| бубон | |
| виры | гнёзды рыб |
| вихóр | віхор |
| вонках | расейскае „вне“, польск. „nazewnątrz“ |
| выбледок | байструк |
| господар | пануючы, гаспадар (цар, кароль) |
| граблі | |
| грозныи | |
| гужы | |

[1]) Блізу усе прыклады Скарынаускай мовы, а так-жа і агулам цытаты са Скарынаускіх кніг, зьмешчаныя у нашай працы, узяты з Владимірова (Франциск Скорина 1888 г.).

*Аутар.*

з (паданымі ў нашай газэце) выступленьнямі Маскоўскага Патрыярха Ціхана, які крытыкуе (?) праваслаўны царкоўны лад у Польшчы.

# Заграніцай.

### У справе нямецкай прапазіцыі.

Жэнеўская газэта „Journal de Geneve“ піша, што Чэмбэрлен заявіў Эрыо ў Парыжу, што англійская апінія, а перад усім доміні — ніколі ня згодзяцца на заключэньне з Францыяй (з участцем Польшчы) такога саюзу, вынікам якога было-б зближэньне Нямеччыны з Расеяй. Англія не падпіша ніякага дагавору, пад якім ня будзе подпісу Нямеччыны.

Найвялікшая англійская газэта „Times“ называе нямецкую прапазіцыю—„праблескам надзеі“ ў тым тупіку, у які зайшла Эўропа. Хаця моц падставаў і пасьпешнае разьвіцьце Польшчы — карысна для Эўропы, аднак, тыя спосабы, якімі Польшча праводзіць свае інтарэсы, ня могуць заўсёды выклікаць агульнага адабрэньня. Газэта піша ўканцы, што англійскі інтэрас кажа разглядзець дакладна нямецкія прапазіцыі...

Гэты англійскі інтэрас — зусім ясны: Англія вельмі была-б рада і многа-б магла зрабіць уступак, асабліва — чужым коштам (у даным разе — коштам Польшчы), — калі-б Нямеччына зьняла з яе, Англіі, рызыку і абавязак гарантаваньня бясьпечнасьці Францыі. Гэтым адразу Англія звольнілася-бы ад даўно стаўшыхся для яе цяжарам „саюзных“, замацаваных „брацтвам крыві“ на апошняй вайне, адносінаў з Францыяй. Англія, якую больш за ўсё страшыць тарговая канкурэнцыя Нямеччыны на моры, нічога ня мела-б проці таго, каб уцягнуць Нямеччыну ў працу над адбудовай бязьмежнага расейскага ўсходу, — дзеля чаго Нямеччыне трэба даць магчымасьць ісьці ў Расею, раскінуўшы той „бар'ер“, які зроблены „гданскім калідорам“.

### Пратэст Літвы проці Ватыкану.

У Коўне адбыліся вельмі рэзкія дэманстрацыі проці папскага нунцыя (пасла) Цэхіні. Грамада вайсковых і цывільных выклікала на балькон прадстаўніка Папы і, аблаяўшы, закідала яго гнілымі яйкамі.

Сойм прызнаў сьпешнасць прапазіцыі людоўцаў у справе адкліканьня літоўскага пасла пры Папе і выдаленьня папскага прадстаўніка з Коўна. Літоўскі ўрад выслаў да Папы вельмі вострую ноту, пратэстуючую проці конкордату з Польшчай. Літоўская прэса пагражае Ватыкану поўным разрывам з Рымскай царквой і стварэньнем асобнай нацыянальнай царквы.

### Апэтыт расьце.

Ап'янёны амаль не сярэднявечным трыумфам у Польшчы Ватыкан разахвоціўся да „кіраваньня сьветам“. Папскі нунцый у Чэхаславакіі заявіў афіцыяльна чэшскаму ўраду, што ўрачыстыя ўгодкі ў чэсьць Яна Гуса (асноўцы чэшскай нацыянальнай царквы) Папа будзе лічыць актам варожым, скіраваным проці Рыму (каталіцкай царквы). Уся чэшская прэса абураецца на гэтую нячуваную даўно ўжо спробу папы ўмешывацца ў палітычнае жыцьцё Чэхаславакіі.

У Чэхаславакіі наагул істнуе імкненьне зьліквідаваць усялякія зносіны з Рымам.

### Перабудова латвійскага ўраду.

У склад латвійскага ўраду ўвайшлі 3 прадстаўнікі цэнтру і лявіцы, пашырыўшы і ўзмоцніўшы гэткім чынам падставу ўраду.

### Новая навуковая ўстанова.

У Маскве мае ў хуткім часе адчыніцца новая вышэйшая школа—„інстытут для вывучэньня сусьветнай палітыкі і гаспадаркі“. Запрошаны, апрача сваіх, рад заграніўных прафэсароў.

### Новы пасол ССРР у Японіі.

Паўнамоцным паслом ССРР у Японіі назначаны Віктар Копп, былы сябра калегіі камісарыяту замежных спраў.

### Тэстамант Сун-Ят-Сэна.

Польскае Тэлеграфнае Агенцтва наказуе:

Радавы ўрад атрымаў з Кітаю тэстамант вялікага кітайскага рэвалюцыянэра-незалежніка д-ра Сун-Ят-Сэна, пісаны перад самай яго сьмерцяй. У гэтым тэстаманце Сун-Ят-Сэн заяўляе, што ССРР — найбліжэйшы і найшчырэйшы саюзьнік і прыяцель вызваляючагася з эўрапэйскае няволі Кітаю. Доктар Сун-Ят-Сэн загадывае ў тэстаманце сваей партыі „гоміндон“ (народных сацыялістаў) падтрымліваць найцясьнейшы кантакт з ССРР.

Выканаўчы Камітэт III Інтэрнацыяналу выдаў з гэтай прычыны 2 адозвы, у якіх заклікае пралетарыят усяго сьвету памагаць кітайскаму народу ў яго вызвольнай барацьбе проці эўрапэйскага імпэрыялізму, а кітайскіх народных сацыялістаў—да зьліцьця з кітайскай камуністычнай партыяй.

### Барацьба з апазіцыяй у Югаславіі.

12-га сакавіка адбылося першае паседжаньне новага парляманту Югаславіі.

Як ведаюць нашы чытачы,—ня гледзячы на страшэнны тэрор ураду Пашыча, перад усім проці харвацкай сялянскай партыі Радіча, — выбары далі вельмі сумную перамогу ўрадавым партыям, а што датычыць харвацкай апазіцыі, дык яна ня страціла ў новым парляманце літэральна аніводнага мандату, калі ня лічыць выбранага народам, але ня выпушчанага з турмы правадыра яе Радіча.

Дык вось, калі гвалты, арышты і забойствы не далі ўраду перамогі, дык Пашыч, згаварыўшыся з каралём (сэрбам!), знайшоў новы, менш крывавы, але мо' больш агідны, спосаб пазбыцца апазіцыі. Калі пачала працаваць мандатная камісія новага парляманту, урад зьвярнуўся да яе з рашучым дамаганьнем — уняважніць усе мандаты сялянскай партыі Радіча. Урадавыя партыі маюць большасьць у камісіі, дамаганьне ўраду споўнілі. Больш за 60 дэпутатаў—усе харваты!—аб'яўлены камісіяй пазбаўлены мандатаў. Увесь харвацкі народ мае быць пазбаўлены законна-выбарнага прадстаўніцтва адным урадам — па загаду сэрбскага (бо-ж не югаслаўскага!) ўраду Пашыча.

На мейсца гэтых паслоў урад Пашыча зусім ня мае рабіць новых выбараў у Харватыі, ведаючы, што ўсё роўна яму не перамагчы харвацкага выбаршчыка ні турмой, ні паліцэйскай стрэльбай.

Урад Пашыча высунуў, як праўную прычэпку, тое, што партыя Радіча называе сябе ня толькі сялянскай, але і рэспубліканскай, пад той час, як Югаславія—манархія. Дык, значыць, гэта партыя—„нелегальная“ і ня можа быць прызнана ўрадам, хаця юрыдычна і палітычна гэта—чыстая недарэчнасьць, бо кожны грамадзянін мае права імкнуцца да ўсялякага іншага ладу ў дзяржаве, абы толькі срэдзтвы і спосабы зьдзейсьненьня яго імкненьняў не нарушалі законаў.

У выніку гэтае пастановы мандатнае камісіі адзін з дэмакратычных дэпутатаў заявіў ад імя ўсяе апазіцыі, што яна ў такіх варунках ня можа працаваць і выходзіць з Скупштіны (парляманту).

### Выбарная рэформа ў Англіі.

У Англіі, як і ў большасьці іншых краёў, жанчыны да апошніх часоў ня мелі ніякіх палітычных правоў, а перад усім—выбарнага права.

Усім памятны галосныя і скандальныя выступленьні так званых „суфражыстак“ (suffrage—галасаваньне), якія ў знак пратэсту, зьбівалі парасонамі цыліндры і білі па галовах англійскіх міністраў, адмаўляўшыхся падаць у парлямант „біль“ (законапраект) аб выбарным праве для жанчын. І вось, у часе вайны, як шмат дзе, так і ў Англіі жанкі зрабілі значныя заваяваньні палітычных правоў. Але ў Англіі жанчыны пакуль што яшчэ не дабіліся палітычнай роўнасьці з мужчынамі.

Толькі нядаўна лібэралы разам з Партыяй Працы падалі ў парлямант праект закона, каб усім жанчынам, скончыўшым 21 год, як гэта ёсьць для мужчын, даць права выбіраць дэпутатаў у парлямант.

Але ўрад ня згодзіўся на гэта, і парлямант 220 галасамі проці 153 адкінуў гэты праект апазіцыі. Прадстаўнік ураду заявіў, што гэтая рэформа—не начасе, бо выклікала-б зараз-жаканешнасьць новых выбараў (?). Урад згадзіўся толькі... у 1927 г. склікаць нараду з прадстаўнікоў усіх партыяў, якія-б апрацавалі падставы новай шырокай рэформы выбарнага права, аднолькавага для мужчын і жанок.

Дык з гэтага відаць, што ўсе партыі ў Англіі прынцыпова згаджаюцца на агульнае і роўнае выбарнае права, і гэтая падстаўовая дэмакратычная рэформа ў Англіі — справа вельмі кароткага часу.

### Пачатак урадаваньня прэзыдэнта Амэрыкі.

4-га сакавіка новы прэзыдэнт Злучаных Штатаў (дзяржаў) Амэрыкі, Кулідж, даўшы згодна з Канстытуцыяй, прысягу, афіцыяльна прыняў свае служэбныя правы і абавязкі.

Пасьля ўсіх фармальнасьцяў, ён сказаў вялікую прамову, у якой заявіў, што амэрыканскі народ не адмовіцца ад рашучага і адказнага ўчасьця ў сусьветнай палітыцы і прыме ўсе меры, каб забясьпечыць сьвету мір.

# ХРОНІКА.

**Дзякуючы абмежаваньню выдавецкіх коштаў і ахвярнай дапамозе грамадзянства, а перад усім нашага Пасольскага Клюбу,—у чародным тыдні замест аднаго павялічанага нумару ў 6 стр. выпускаем два нармальныя нумары па 4 стр.**

**Чародны нумар выйдзе ў сераду, 25 марца.**

**Да Скарынінскага юбілею.** Беларусы, жадаючыя атрымаць білеты на ўваход на ўрачыстую акадэмію, ладжаную Беларускім Навуковым Т-вам 25 марца ў 8 гадз. увечары ў актовай салі Беларускае Гімназіі (Вострабрамская 9), заклікаюцца чым хутчэй запісацца ў сяброў Ураду Т-ва ці ў старшыні Скарынінскае Сэкцыі, дырэктара Гімназіі Астроўскага: лічба мейсц будзе абмяжована з прычыны цеснаты памяшчэньня.

**Баламуцтва.** Косьцевічаўская „Прасьвета“ і валэйшаўска-паўлюкевічаўскі „Грамадзкі Голас“ на ўвесь сьвет крычэлі аб „дабрадзействе“ польскае асьветнае ўлады, якая быццам-то манілася адчыніць у Вільні курсы для беларускіх вучыцялёў дзеля „выкваліфікаваньня“ іх. Курсы гэныя мелі быць адчынены на 40 асоб—ужо 10 сакавіка (марца) с. г. Банда з Людвісарскае вуліцы баламуціла нешчасьлівых безработных беларускіх настаўнікаў, вымагала ад іх прысылкі дакумэнтаў і т. п., а адначасна школьныя інспэктары бралі ў іх падпіску, што яны „беларускае мовы ня ведаюць“. Сколькі было наіўных, якія ўсяму гэтаму верылі і давалі гэную дзікую падпіску, мы ня ведаем: гэта ведае хіба толькі ўстанова, у якой „працуе“ п. Косьцевіч. Але затое мы ведаем, што **ані 10 сакавіка, ані да сяньняшняга дня шумна абвешчаныя курсы ў Вільні не адчыніліся.** Больш таго: нас паведамляюць, быццам гэныя курсы ў Вільні ўрадам **зусім ня будуць адчынены...**

Характэрна тут тое, што на просьбу Беларускае Цэнтральнае Школьнае Рады даць ей дазвол адчыніць у Вільні вучыцельскія курсы школьная ўлада ад восені ажно дагэтуль **не дала нават ніякага адказу.** А за ўвесь гэты час людвісарская банда толькі баламуціла і прост ашуківала беларускіх настаўнікаў сваімі ілжывымі абяцанкамі, што ўлада зробіць усё, што трэба,—хай толькі ціха сядзяць і ня рыпаюцца... І такі знаходзіліся настаўнікі, якія верылі гэнай бандзе і хадзілі ў шулерню на паклон.

Ці ня сорамна ім цяпер перад усім сьветам?

**Хто ж вінаваты?** „Słowo“ наказуе, што камісія, прысланая з міністэрства дзеля сьледзтва ў справе панамы ў віленскім кураторыуме, адмяніла пастанову куратара, п. Гонсёровскага, аб ухіленьні ад спаўненьня абавязкаў п. Рахальскага, вышэйшага урадоўца кураторыуму, каторы ў свой чарод вінаваціць у-ва ўсім самога п. Куратара...

Дык вось узьнімаецца пытаньне: хто-ж вінават? Калі п. Рахальскі камісіяй прызнаны невінаватым, дык сам сабой напрашываецца вывад: ці пастанова камісіі не паказуе, што вінаваты ягоны начальнік?

Але чаму-ж тады камісія не „zawiesiła“ п. Гонсёровскага?

**Закрыцьце Віленскага „Беларускага“ (?) Клюбу.** Шулерня № 2 пана Валэйша, якая пад назовам „Віленскі Беларускі Клюб“ была ім адчынена з дазволу п. Камісара Вімбора, зараз-жа пасьля таго, як гэты апошні адмовіўся зацьвярдзіць статут запраўднага Беларускага Клюбу для беларускай інтэлігенцыі (просьба падпісана дырэктарам Гімназіі п. Астроўскім і інш.),—цяпер, як падалі мясцовыя газэты, закрыта часова ваяводзкай уладай, якая зрабіла даклад у Міністэрства аб патрэбе аканчальнага яе закрыцьця. Улада закрыла гэны „Клюб“ „пасьля апошняй рэвізіі, якая сцьвярдзіла газардовую ігру“.

Аб тым, што ў „Клюбах“ гэтых адбывалася газардовая ігра, ведалі ня толькі ўсё ўсялякія ўлады ўсіх інстанцыяў у Вільні і ў Варшаве, ня толькі ўсе жыхары Вільні, але чырыкалі ўсе вераб' на віленскіх стрэхах і плотах... І, ня гледзячы на гэта, мясцовыя, а, можа, і цэнтральныя ўлады — з традыцыйнай польскай „tolerancją“—ўсё гэта „tolerowali“...

„Талеравалі“, як кажуць гласьнікі, дзеля таго, што за даходы з гэтых „клюбаў“—шулерняў утрымлівалася—найтаньвей для польскага скарбу! — уся „патрыятычная“ акцыя паноў Валэйшаў, Паўлюкевічаў і ім падобных.

Для гэтых „патэнтаваных“ беларусаў і была дадзена гэткая „канцэсія“.. Але пасьля таго, як паны „prezezy“ не падзялілі паміж сабой „улады“ — з усімі яе клапотамі, ганорамі і—прысмакамі, ці, проста кажучы, пабіліся за даходы з гэтых шулерняў і тых „subwencji“, якія, часам, „даплывалі“ з дзяржаўнага скарбу, дык карысная для абедзьвюх старон акцыя польска-беларускага паразуменьня (калі не на зялёных палёх Беларусі, дык прынамся за зяленым полем шулярняў і зялёным сукном канцэлярый).. неяк адразу пачала псавацца...

А калі абодва галоўныя лідэры ўсяго гэтага „руху“, п. Валэйша і п. Паўлюкевіч разыйшліся аканчальна, тады п. Валэйша **сам зачыніў**, ці „zawiesił“, абедзьве шулерні, адмовіўшы, зразумела, і ў „фінансаваньні“ ўсіх дэкаратыўных прадпрыемстваў „доктара“ Паўлюкевіча...

Прыйшлося пану „доктару“ з усімі сваімі „хвэльчарамі“—ісьці зусім ужо **на службу** да „власть имущих“, ужо не як больш-менш „незалежны“ канцэсыянер, але як просты найміт.

Нам ведама, што паўлюкевічаўская „Тымчасовая Беларуская Рада“ апрацавала для сябе і аднагалосна (!) прыняла „бюджэт“—у ліку 16.000 злотых у месяц, які і быў прадстаўлены да зацьвярджэньня адноснай уладзе... Гэта, зразумела, значна пагоршыла адносіны і наагул усё „паразуменьне з Польшчай“.

Ці будзе гэты „бюджэт“ п. п. сяброў „Рады“ зацьверджаны, ці не, ня ведаем... Трэба спадзявацца, што хутчэй справа фінансаваньня ляяльнасьці п. п. Паўлюкевічаў будзе вырашацца „па за бюджэтным“ шляхам — у парадку паасобных „jednorazowych danin“..

**Утапленьне аружжа.** Дырэктар Віленскае Беларускае Гімназіі, грам. Астроўскі, які перш жыў у Бярэсьці і меў ад тамтэйшае ўлады дазвол на дубальтоўку і рэвальвэр, — перабраўшыся ў Вільню, падаў да п. камісара ўраду Вімбора, вядомага сваей „прыхільнасьцяй“ да беларусаў наагул, просьбу аб аднаўленьні дазволу з пачаткам новага 1925 году. Урадовец, які прыймаў просьбу, заявіў, што ён можа прыняць просьбу толькі тады, калі грам. Астроўскі выбярэ перш „kartą łowiecką“ (права на паляваньне) за 10 зл. Калі-ж апошні гэта зрабіў, п. камісар... адмовіўся прадоўжыць дазвол на аружжа! У сувязі з гэтым нам дастаўлены гэткі характэрны для нашага жыцьця наагул дакумэнт:

1925 г. лютага 21 дня, мы ніжэйпадпісаныя паслы на Сойм Рэчыпаспалітай Польскай-Браніслаў Тарашкевіч і Фабіян Ярэміч па просьбе Дырэктара Віленскай Беларускай Гімназіі Радаслава Астроўскага былі прысутнымі пры ўтапленьні ў рацэ Вільлі ўлас-

